

**Калі Вам патрэбна дапамога ці**
**проста Вы зацікавіліся кажанамі,**
**калі ласка звяртайцеся па гэтых кантактах:**


**Аляксей Шпак** ДНВА "НПЦ НАН Беларусі па біярэсурсах"

e-mail: dverg@mail.ru

Тэлефон: +375 29 213 92 57

www.vk.com/kazhany_by
www.facebook.com/Kazhany.by



**Грамадская арганізацыя**
**"Ахова птушак Бацькаўшчыны"**

(8017) 263-06-13
(8029) 223-06-13
(8029) 101-68-87
info@ptushki.org

www.fb.com/APB.BirdLife.Belarus
www.vk.com/ptushki
www.twitter.com/ptushki

220114, г.Мінск, вул. Парніковая. д.11, пам. 4

www.ptushki.org





Грамадская арганізацыя
**"Ахова птушак Бацькаўшчыны"**
www.ptushki.org


# Дзеткам пра кажаноў






SECTOR
REGIONAL ENVIRONMENTAL CENTER
SWEDEN

# ХТО ТАКІЯ КАЖАНЫ?

Кажаны – гэта не птушкі і не мышы. Гэта маленькія прыгожыя звяркі, якія могуць лятаць. Адносяцца яны да млекакормячых і выкормліваюць сваіх дзіцянятак малаком. Як вы ведаеце, кажаны лятаюць ўначы і знаходзяць сабе шлях, выпускаючы вельмі-вельмі ціхія гукі, якія могуць чуць толькі дзеці. Гук, адбіты ад якой-небудзь перашкоды, кажаны ўспрымаюць як рэха сваімі чуллівымі вушамі. Такі спосаб арыентацыі ў прасторы называецца эхалакацыяй.





# ДЗЕ ЖЫВУЦЬ КАЖАНЫ?

Кажаны не могуць будаваць сабе гнёзды, норы ці домікі. Таму яны жывуць у пячорах, дуплах, ці нават могуць сяліцца побач з намі ў нашых дамах, напрыклад, у падвалах ці на гарышчах.





## ЧАМУ КАЖАНЫ НАШЫ СЯБРЫ?

Кажаны дапамагаюць людзям змагацца з насякомымі-шкоднікамі. Калі б не кажаны – гэтыя насякомыя з'елі б нашы сады, лясы і паркі.



# ШТО РАБІЦЬ?

Калі вы знайшлі кажана – тэрмінова паведаміце аб гэтым дарослым і ні ў якім выпадку не бярыце яго ў рукі.